Кася ГЛУХОЎСКАЯ

# СОНЕЧНАЯ РАКА



*Кася Глухоўская нарадзілася 2 чэрвеня 1995 года ў Мінску. Студэнтка 3 курса факультэта філасофіі і сацыяльных навук БДУ. Дыпламант першай ступені ў намінацыі «Духоўная спадчына» за зборнік паэзіі «Белы леў» (самвыдатаўскі) у Рэспубліканскім конкурсе маладых талентаў (2012—2013).*

**НАРАДЖЭННЕ**

Прачніся, свет, за гарызонтам, там,
Няспынны квет — пяшчотныя аблокі,
Заранка слепіць вочы дзівакам
І вабіць дух — і дух ідзе, бязногі,
Бяскрылы, непабачаны нікім,
Чароўны дух, само жыццё, магчыма.
І падаецца свет святлом такім,
Што дзівакі ўсё лыпаюць вачыма,
Не дыхаюць, бо хочацца ўцягнуць
Заміж паветра вобраз неймаверны,
І замест слёз цячэ з вачніц іртуць —
Атрамантам і фарбай да паперы.
Не стой, замёршы, гэта хараство
Не для таго, каб чалавек стаў пасткай,
А мо наадварот, каб позірк твой
Схапіць — і ўсё астатняе каб засціць.
Каб ты пайшоў, панёс ды перадаў,
Захоплены — замкнёным у пячоры,
Што ўсё на свеце — неба ды вада,
Акно ад сёння ў заўтра ды ва ўчора;
Што прыгажосць — між мітуслівых змен,
А ўсе яны — адна жывая Вечнасць;
Што костку можа раздрабніць бязмен,
Душы ж яму ніколі не знявечыць;
Што толькі мы ў адказе за сябе
Прад кожным мінаком і кожным блізкім,
І ў той жа момант мы ў адной трубе
Менш за часціцу атамарнай рыскі,
Менш за слана і менш за мураша,
Нароўні з кожным, без віны ў той момант,
Калі ў здзіўленні кідаем дрыжаць —
І ўваскрасаем з амярцвелай комы.
Мінулае было — і там не ты,
Там чалавек з тваім імём ці целам.
І ўсе табой пражытыя гады —
Як прачытаны прыклад нечы ў цэлым.
Ён вопыт дасць — нязменны кніжны факт,

Што так і так — рабі цяпер высновы.
Ці будзеш ты пасля? — І не, і так.
Такі, як ёсць, ты толькі зараз, новы.

**НЕ ЗНІКАЙ**

Не знікай: Зямля не стане стынуць,
І не згаснуць зоркі ў паднябессі,
Не знямее чалавечы род,
Толькі ты не выпрастаеш спіну,
Толькі ты сусвет не будзеш песціць,
І падасца мне, наадварот...

Ні святла, ні цеплыні, ні спеваў,
Ні вачэй, ні красак, ні жыцця,
Падрубілі Ігдрасіля дрэва,
Здолелі ўсе промні Сонца сцяць,
Не знікай: павер, не грымне громаў,
Не ўзламаецца Адамаў схіл.
Толькі больш цябе не будзе дома,
Толькі дом нам будзе між магіл.
З залатой пыльцой слядоў мятлушкі
Літары паснуць, паснуць тамы:
Будзе пыл каўнеры кніжак гушкаць,
Будзем пылам мы.

**КАЛЯДНАЕ ПЕРАМІР'Е**

Калядная зорка саспела ў маёй руцэ да
Тых, хто яе перадасць праз акопы ў горад.
Ад стомы ва ўсіх перад зрэнкамі — абэцэда,
Дзе літара «Ш», як трызубец, тырчыць сувора.
І чорныя мушкі — цэ-цэ — у маіх вачах.
І так надакучыла бачыць людзей на мушцы.
Нібы джаліць з неба насланая саранча,
І сніцца Егіпет у цемры начной, і душыць.
І толькі Раство. І спыняем свой дыспут куль —
Стаў братам чужак, працягнуў мне насустрач зорку.
Любуюся ейным святлом і жыву. Пакуль
Вайна ў нас даўжэй ад каляднага надвячорка...

**АТЛАНТ**

Стаіць Сусвет — здранцвелы ў слуп спакою,
Ён сілай наліты нібы такою,
Што здрыганецца — лусне неба ўшчэнт

І паліецца сонечнай ракою.
Пануры твар — ад стомы горка ў роце,
І вязнуць ногі ў багне ды балоце.
Сусвет маўчыць — і толькі пот цячэ,
Нібы сляза смалістая ў нягодзе,
Калі ў магутны ствол сякеры зуб
Пускае цмок людскі — і волат-дуб
Губляе раўнавагу, стогне, ходзіць,
Гайдаецца — і потым долу — груб.
І кроў цячэ з губы перасмыкнутай —
Сусвет хвіліны лічыць як мінуты,
Бо за імгненне год перажыве,
Бо ён стрываць спакой не можа люты.
І вусны закусіў, і неба сцяў —
Ды ўсё ў ім прагне шчырага жыцця.
І сэрца сцішыць не маглі б пакуты:
Ён рушыць хутка, сам сабе суддзя,
Страсе як пыл аблокаў дымку пены,
Напятыя свае з напругі вены
Суцішыць рухам вольных, новых мар —
І зрэшты разагне свае калены.

**ПАДАРОЖНАЕ**

На Польскай зямлі сто маленькіх касцёлаў стаіць —
І кожны з іх прагне сапраўднага Бога стаіць,
А Бог прыхаваўся на кожным зямным сантыметры,
Захутаўся ўвесь, з галавой, у дзявочыя гетры,
Дзіцячыя боты, старэчыя палкі ды тросткі.
Бог духам сваім угрызаецца ў нашыя косткі,
Хапае зубамі, ірве, як галодны сабака,
Каб кожны ад пашчы Яго прыгажосці заплакаў.

Германія — сонечны рапс падпірае лясы,
З-пад дрэваў габрэяў і гномаў гучаць галасы —
Гісторыя свету чапляе гісторыю казак,
І Якаў з Вільгельмам ляжаць між старонак і красак.
Шалёнае піва змывае з-пад ног берагі —
Мы злізваем пену з русалчынай мокрай рукі —
Хвасты роўным колам па хвалі вядуць карагоды —
Нямецкая іх філасофія іншай прыроды,
Ніж бачылі людзі. З навукай старога Эйнштэйна,
Яго капялюшык па піве плыве безнадзейна.
І Вагнера грае для скокаў шкляны чалавечак,
А ў рытме над лесам падрыгваюць Міхеля плечы.

**ПРЫСВЯЧАЕЦЦА ЭМІГРАНТАМ**

Няспынны квет — заспаная зямля
Пацягваецца дрэвамі нясмела.
На новы подых, Беларусь мая,
Ты пасталела.

Цвіце вярба, займаецца ўзыход,
Лісцё расой пакрылася, як потам.
Заўжды ў табе і яблыня, і плот,
І плод над плотам.

І травы, і стары гарбатны збор,
І дзьмухаўцы з засанцаваным тварам,
Чаромхі, ліпы ды калматы бор,
І нават хмары,

Язмін, чабор, лілея на вадзе,
Агрэст, парэчак гронкі-завушніцы —
Калі такое я пабачу дзе,
Ты будзеш сніцца.

І толькі твой салодкі пах раллі,
Твой водар гною ды сабачай поўсці
Мяне люляе, прагаю баліць
І кліча ў госці...